# ЛЕНІНСКАЯ ВУЧОБА

ЧАСОПІС-ПАДРУЧНІК
ДЛЯ ПАЧАТКОВЫХ ПАРТШКОЛ
І НІЗАВОЙ СЕТКІ ПАРТАСЬВЕТЫ



ОРГАН КУЛЬТПРОПУ ЦК КП (б)Б

КНІГА 11

ЦАНА 15 КАП.



# ЛЕНІНСКАЯ ВУЧОБА

ЧАСОПІС-ПАДРУЧНІК
ДЛЯ ПАЧАТКОВЫХ ПАРТЫЙНЫХ ШКОЛ

ОРГАН КУЛЬТПРОПУ ЦК КП(б)Б



Адказны рэдактар МОДЭЛЬ

Рэдколегія:
А. КАНАКОЦІН, Д. ОРЛІС, ПЕРЛІНА, Я. РАМАНЧУК,
П. СТАРАВОЙТАЎ, МОДЭЛЬ і КЛІМАЎ



№ 11



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ВУЧПЭДСЭКТАР
МЕНСК 1931



*Халепа Т. Я.*

## ЗА СВАЯЧАСОВУЮ АПРАЦОЎКУ І ЗДАЧУ ІЛЬНАВАЛАКНА ДЗЯРЖАВЕ.

### 1. Вырашым проблему тэхнічных культур.

У трэцім годзе 5-годкі мы маем вялізарнейшыя дасягненьні па рэконструкцыі сельскай гаспадаркі ў напрамку пабудовы буйных социялістычных гаспадарак. У асноўных збожжавых раёнах скончана суцэльная колектывізацыя і на яе аснове ліквідацыя як клясы апошняга аплоту капіталізму ў вёсцы—кулацтва.

Чэрвеньскі пленум ЦК УсеКП(б) зазначыў, што «колгаснае сялянства ператварылася ў цэнтральную фігуру земляробства... у выніку разьвіцьця саўгасаў і пераходу большасьці працоўнага сялянства на шлях колектывізацыі, наша краіна стала краінай самай буйнай сельскай гаспадаркі ў сьвеце».

Колгаснае будаўніцтва пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі працягваецца і далей пры поўным захаваньні прынцыпаў добраахвотнасьці і рашучай барацьбе з «лявацкім» адміністраваньнем колгаснага руху. Асноўнай задачай на сучасным этапе калгаснага будаўніцтва зрабілася задача гаспадарча-організацыйнага замацаваньня колгасаў.

На аснове шырокага разгортваньня будаўніцтва саўгасаў і колгасаў краіна з посьпехам вырашыла збожжавую проблему. «Зараз, калі мы ўжо вырашылі ў асноўным збожжавую проблему, мы можам прыступіць да адначасовага вырашэньня і проблемы жывёлагадоўлі і проблемы тэхнічных культур». (З прамовы тав. Сталіна на XVI партзьезьдзе).

Вырашэньне проблемы тэхнічных культур, а тым самым стварэньне сыравіннай базы для нашай лёгкай прамысловасьці, якая

павінна задавальняць шырокія патрэбы мас, павінна стаць прадметам асобнай увагі і клопатаў усёй парторганізацыі, усёй савецкай грамадзкасьці.

Шлях да вырашэньня проблемы тэхнічных культур, у прыватнасьці і льну, той-жа самы, што і для вырашэньня проблемы збожжавых культур, а іменна, пабудова буйных саўгасаў і колгасаў. Толькі буйныя соцыялістычныя гаспадаркі, саўгасы і колгасы, якія ўжываюць мэханічныя спосабы апрацоўкі, змогуць забясьпечыць выкананьне заданьня па тэхкультурах для нашай лёгкай прамысловасьці.

Асноўнае, што робіць цяжкім вырашэньне проблемы тэхнічных культур—гэта абмяжованыя магчымасьці аднаасобнай, дробна-таварнай гаспадаркі селяніна і старыя дапатопныя прыёмы тэхнікі апрацоўкі ўраджаю лёну, якія патрабавалі вельмі вялікіх затрат чалавечай працы. Ва ўмовах вузкапалосься і абмежаваных патрэб дробнай аднаасобнай сялянскай гаспадаркі нельга было чакаць шырокага разьвіцьця ільнаводзтва.

Толькі бурныя тэмпы колектывізацыі, падвядзеньне пад ільнаводныя гаспадаркі магутнай машыннай базы: будаўніцтва МТС у ільнаводных раёнах, заводаў па пяршачнай апрацоўцы ільну, завоз ільнацерабілак, ільначасалак, ужываньне мінэральных угнаеньняў—адчыняе шырокія пэрспэктывы разьвіцьцю соцыялістычнага ільнаводзтва. Пабудова буйных соцыялістычных гаспадарак ільнаводзтва дае магчымасьць у некалькі разоў пашырыць плошчу пасеву ільну і асвоіць новыя нераспрацаваныя землі пад пасеў ільну. Разьвіцьцё ільнаводзтва ў буйных соцыялістычных гаспадарках дае магчымасьць хутка падвышаць ураджайнасьць і ўзьняць тэхніку ільнаводзтва на вышыню, якая адпавядае паставленай партыяй і савецкай уладай задачы «дагнаць максымум у 10 гадоў самыя перадавыя ў тэхніка-экономічных адносінах капіталістычныя краіны».

Найвялікшая задача па вырашэньні пытаньня тэхнічных культур, у прыватнасьці ільну, ускладаецца на БССР, у якой кліматычна-глебавыя ўмовы спрыяюць разьвіцьцю ільнаводзтва. Наша сельская гаспадарка разьвіваецца ў напрамку спэцыялізацыі раёнаў адпаведна географічным і глеба-кліматычным умовам. Мы рашуча вядзем барацьбу з прынцыпам «сеяць усяго патроху».

Гэта прынцыпы адсталай гаспадаркі, якія нічога агульнага ня маюць з прынцыпамі спэцыялізацыі буйнай социялістычнай гаспадаркі. БССР па сваіх кліматычна-глебавых умовах не аднолькава, а таму і спэцыялізацыя раёнаў ідзе адпаведна тым прыродным умовам, якія спрыяюць той або іншай галіне разьвіцьця сельскае гаспадаркі.

Студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б, надаючы асаблівае значэньне спэцыялізацыі раёнаў, падкрэсьліў, што трэба «ў адпаведнасьці з устаноўленым раёнаваньнем БССР правесьці рэзкую спэцыялізацыю саўгасаў і колгасаў, адначасова ўцягнуўшы ў гэту справу бядняцка-серадняцкія масы аднаасобнікаў».

Гаспадарча-арганізацыйнае замацаваньне калгасаў, а таксама будаўніцтва новых саўгасаў і калгасаў павінна праводзіцца з пункту погляду пастаўленай партыяй задачы правядзеньня спэцыялізацыі. Партыйныя, савецкія і прафсаюзныя арганізацыі павінны мобілізаваць шырокія масы рабочых саўгасаў, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкія масы аднаасобнікаў на выкананьне важнейшай дырэктывы партыі—проблемы тэхкультур.

Трэба як мага хутчэй перайсьці ад старых, дапатопных мэтодаў апрацоўкі тэхнічных культур да новых высокамэханізаваных, якія вызваляюць чалавека ад цяжкай працы, падвесьці навуковы фундамант пад процэсы апрацоўкі ільну.

Неадкладна пачаць ажыцьцяўленьне задачы, высунутай т. Сталіным, задачы аўладаньня тэхнікай. Тав. Сталін сказаў: «Самае важнае з пункту погляду будаўніцтва мы ўжо зрабілі. Нам засталося нямнога: вывучыць тэхніку, аўладаць навукай. І калі мы зробім гэта, дык у нас пойдуць такія тэмпы, аб якіх зараз мы і марыць ня можам».

З бальшавіцкай настойлівасьцю патрэбна мобілізаваць масы колгасьнікаў мужчын і жанчын на выкананьне гэтай дырэктывы т. Сталіна. Трэба памятаць яго словы: «Тэхніка ў пэрыод рэконструкцыі вырашае ўсё». Аўладаньне новай тэхнікай процэсаў вытворчасьці ільну, работа на ўборачных і апрацовачных машынах—зьяўляюцца неадкладнай задачай кожнага работніка ільнаводных саўгасаў ці колгасаў.

Выкананьне гэтае адказьнейшае задачы партыі—вырашэньне проблемы тэхнічных культур—праходзіць ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы з кулаком і яго падпявалам. Кулак добра разумее, што спэцыялізацыя ўзмацняе соцыялістычную сельскагаспадарчую вытворчасьць колгасаў і спрыяе хутчэйшаму разьвіцьцю лёгкай прамысловасьці. Ён усімі магчымымі сродкамі імкнецца затармазіць, скомпромэтаваць ідэю спэцыялізацыі гаспадаркі, а тым самым вырашэньне проблемы тэхнічных культур. Увесну кулак і яго агенты ўсе сілы паклалі на агітацыю за скарачэньне плошчы пасеву ільну. У час поліўнай кампаніі ён імкнуўся ўплываць на жанчын размовамі аб тым, што нічога вы за гэта не атрымаеце, што будзе вайна і ўсё прападзе і г. д. Зараз яго дзейнасьць накіравана на зрыў пяршачнай апрацоўкі ільнавалакна і задачы яго дзяржаве. Клясавая пільнасьць партыйных організацый, калгаснай масы і бядняцка-серадняцкага сялянства на ўсіх вучастках—рашаючая ўмова вырашэньня проблемы тэхнічных культур. Рашучая барацьба з кулацкімі вылазкамі, пад якімі выглядамі яны ні былі-б, бязьлітаснае падаўленьне яго спроб пашкодзіць справе апрацоўкі тэхнічных культур і добрая організацыя колгасных мас на пасьпяховае правядзеньне пяршачнай апрацоўкі ільну—забясьпечыць сыравінную базу нашай лёгкай прамысловасьці.

У вырашэньні проблемы тэхнічных культур, у прыватнасьці ільнавалакна, вялікую ролю павінен будзе адыграць аднаасобны сэктар сельскае гаспадаркі. Колгаснае сялянства стала цэнтральнай фігурай земляробства. Бядняцка-серадняцкія гаспадаркі аднаасобнікаў адыгрываюць у сельскагаспадарчай вытворчасьці другарадную ролю, але ні ў якім разе нельга іх ігнараваць таму, што вытворчая роля іх, у тым ліку і ў галіне тэхнічных культур, яшчэ вялікая. Нельга недаацэньваць як задачы ўцягненьня аднаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у колгасы, так і вытворчага значэньня іх.

Трэба рашуча весьці барацьбу з правымі і «левымі» опортуністамі, якія робяць стаўку на самацёк у адносінах бядняцка-серадняцкіх мас аднаасобнікаў. Трэба настойліва весьці агітацыйна-масавую растлумачальную работу па ўцягненьні бядняцка-серадняцкіх мас аднаасобнікаў у колгаснае будаўніцтва.

Гаспадарча-організацыйнае замацаваньне існуючых калагасаў, якое зьяўляецца асноўнай задачай у сучасны момант, ёсьць мацнейшы сродак далейшага ўцягненьня аднаасобнікаў беднякоў і серадняк0ў у калгасы.

## II. Разьвіцьцё ільнаводзтва ў БССР.

На аснове правільнага правядзеньня генэральнай лініі партыі, бязьлітаснай барацьбы з апортунізмам, краіна дабілася вялізарнейшых посьпехаў у правядзеньні колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

У БССР рад раёнаў (Лепельскі, Койданаўскі, Сьмілавіцкі і інш.) заканчваюць суцэльную колектывізацыю бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Пасьпяховае правядзеньне суцэльнай колектывізацыі і гаспадарчае замацаваньне саўгасаў і колгасаў дае магчымасьць хутчэй правесьці спэцыялізацыю раёнаў і кожнага саўгасу і колгасу паасобку.

Ужо з вясны гэтага году мы маем круты паварот у вырашэньні проблемы тэхнічных культур, у прыватнасьці ільну. У мінулым годзе пад ільном была засеяна плошча 2245 тыс. **га**, у гэтым годзе ўсяго па Савецкім Саюзе засеяна 3032 тыс. **га** ільну. Рост засеўнай плошчы ў параўнаньні з мінулым годам мы маем на 35 проц. Палова ўсёй плошчы пасеву ільну па Савецкім Саюзе засеяна саўгасамі і колгасамі.

БССР, якая ідзе па шляху да суцэльнай колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак на аснове добраахвотнасьці і правядзеньня шырокай растлумачальнай работы, такасама пасьпяхова вырашае проблему тэхнічных культур. Засеўная плошча ільну па БССР у гэтым годзе ўзрасла на 61,3 проц., дасягнуўшы 242 тыс. **га.**

Работа па колектывізацыі ў ільнаводных раёнах, барацьба за пашырэньне плошчы пасеву ільну праходзіла ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы. Пад кіраўніцтвам партыйных організацый, на аснове цьвёрдага і няўхільнага правядзеньня генэральнай лініі партыі, колгасьнікі і бядняцка-серадняцкія масы дабіліся вялікіх посьпехаў у пашырэньні плошчы ільну, вядучы рашучую барацьбу з клясавымі ворагамі і іх агентурай—опортуністамі.

Шпаркае правядзеньне колектывізацыі і пашырэньне пасеву ільну робяць колгасна-саўгасны сэктар рашаючай сілай у ільнаводзтве.

Уборка ільну па Савецкай Беларусі ўжо скончана. Пачалася апрацоўка і падрыхтоўка да здачы ільнавалакна і ільнасемя дзяржаве. Гэта адказьнейшая работа павінна прыцягнуць да сябе ўвагу ўсёй парторганізацыі і саўгасна-колгаснай масы. У гэтым годзе патрэбна карэнным чынам перабудаваць мэтоды апрацоўкі ільну і закончыць яе ў максымальна кароткі тэрмін.

Да ўборкі і пяршачнай апрацоўкі ільну мы ў гэтым годзе прышлі больш тэхнічна ўзброенымі. Па БССР у гэтым годзе будуецца 45 новых ільназаводаў, з іх некаторыя ўжо пачалі працаваць. Для ўборкі ільну ў гэтым годзе было завезена 500 ільнацерабілак, 320 машын для абчосваньня ільняных галовак, ёсьць 15 машынатрактарных станцый у ільнаводных раёнах. Але ня гледзячы на наяўнасьць значнай тэхнічнай сілы апрацоўка ільну будзе яшчэ ў асноўным праводзіцца ручным спосабам.

Колегія Народнага комісарыяту земляробства БССР у сувязі з гэтым пастанавіла: «скарыстаць існуючыя саматужныя прылады для ўборкі і апрацоўкі ільну і канапель, максымальна мобілізаваць у раёнах наяўныя машыны (канюшынныя цёркі, шэнэлі, мяліцы і інш.), арганізаваць саматужны выраб новых прылад, расставіць людзей і арганізаваць працу ў час уборкі так, каб усе пасевы ільну і канапель былі ўбраны і апрацаваны ў вызначаныя тэрміны».

Вынікі ўборачнай кампаніі ільну паказваюць, што тыя колгасы і саўгасы, якія арганізавана скарысталі ўсю наяўную ў іх рабочую сілу, пры дапамозе фабрычна-заводзкіх і саматужных прылад з посьпехам закончылі ўборку ільну і зараз з такім-жа посьпехам, пачынаюць яго апрацоўку. Колгасы, якія склаўшы рукі, чакалі машын і спадзяваліся толькі на іх, цягнуліся ў хвасьце ўборачнай кампаніі.

У асноўным-жа, ня гледзячы на падрыўную работу, якую праводзілі клясавыя ворагі і іх агенты—правыя і «левыя» опортуністы—пасеў і ўборка прайшла з вялікім энтузіязмам і плян пасеву і ўборкі ільну колгасамі перавыкананы. Колгасамі ўбрана 110.640 га ільну за 107.603 га паводле пляну. Шмат якія бядdespite няк і серадня кі пасеялі лён аднаасобна, а потым уступілі ў колгас і ўбіралі яго колектыўна.

Зараз наступіў адказьнейшы этап далейшай барацьбы за лён—пераапрацоўкі і здачы таварнай продукцыі дзяржаве. У гэтай частцы ў нас ня ўсё добра. Шмат якія саўгасы і колгасы вельмі марудна, па-опортуністычнаму вырашаюць першачарговую задачу сельскагаспадарчай вытворчасьці—пераапрацоўкі ільну.

Опортуністычнымі зьяўляюцца довады аб тым, што не хапае рабочай сілы ў колгасах для гэтых работ. Трэба толькі правільна організаваць і расставіць наяўныя сілы колгасьнікаў, перавесьці ўсю работу на зьдзельшчыну, і рабочай сілы хопіць ня толькі для колгасу, але і для адыходніцтва.

Рад перадавых колгасаў паказалі бальшавіцкія ўзоры барацьбы за сваячасовую дастаўку ільну на загатоўчыя пункты. Колгасы «Чырвоны Кастрычнік», «Поўдзень» (Вушацкі раён), «Прогрэс» (Лёзьненскі раён) і інш. шырока разгарнулі ільнаапрацоўку, і ільнавалакно ўжо паступіла на загатоўчыя пункты. Прыклады гэтых колгасаў павінны падхапіць колгасы ўсяе БССР і па-бальшавіцку выканаць адну з важнейшых гаспадарча-палітычных задач—сваячасовай пераапрацоўкі і здачы таварнай продукцыі ільнавалакна дзяржаве.

## III. Не дапусьцім памылак мінулага году пры пераапрацоўцы ільну.

Пераапрацоўка ільну патрабуе гатоўнасьці да яе ня толькі колгасьнікаў, але і партыйна-савецкіх організацый ільнаводных раёнаў. Кампанія пяршачнай апрацоўкі ільну ня ставіць перад сабой толькі чыста вытворчых задач, але разам з тым яна зьяўляецца важнейшай палітычнай кампаніяй, у часе якой кулацтва паспрабуе скарыстаць усякі повад для яе зрыву.

Вопыт уборкі і пераапрацоўкі ільнавалакна мінулага году паказаў, што да гэтае справы трэба загадзя дасканала падрыхтавацца, у адваротным-жа выпадку пераапрацоўцы ўжо ўбранага ільну можа пагражаць прарыў.

У мінулым годзе кампанія па ўборцы і пяршачнай апрацоўцы ільнавалакна ў саўгасах і колгасах прайшла зусім нездавальняюча. Значная колькасьць ільну засталася на полі няўбранай, а таксама шмат прапала яго неапрацаванага ў колгасах.



Галоўнымі прычынамі прарыву ва ўборцы і апрацоўцы ільнавалакна ў мінулым годзе трэба лічыць: недастатковую мобілізацыю ўвагі партыйных організацый і колгасьнікаў да пасьпяховага правядзеньня ўборкі і апрацоўкі ільну; слабую працдысцыпліну; неорганізаванасьць рабочай сілы і няправільную расстаноўку яе. Масавыя нявыхады на работу і няправільнае разьмеркаваньне колгасных даходаў—вось асноўныя прычыны прарыву мінулага году.

У колгасах ня былі організаваны брыгады, зусім адсутнічала зьдзельшчына, ня ўжываліся нормы выпрацоўкі, рабочая сіла часта зьнімалася з работ па ўборцы ці апрацоўцы ільну і перакідвалася на іншыя работы. З тае прычыны, што асноўнай прычынай прарываў мінулага году па ўборцы і пераапрацоўцы колгаснага ільну была няправільная організацыя працы, уся ўвага зараз павінна быць накіравана на вырашэньне гэтай важнейшай задачы.

Чэрвеньскі пленум ЦК УсеКП(б), адзначаючы недахопы ўборачнай кампаніі мінулага году, запісаў, што ў мінулым годзе разьмеркаваньне даходаў не па рабоце, а па душах, побач з недахопам вопыту вядзеньня буйнай гаспадаркі, павяло да таго, што ў шмат якіх выпадках уборка ня была даведзена да канца, страты ў колгасах пры ўборцы былі вельмі вялікімі, а плошча зяблевага ворыва была пашырана зусім недастаткова. У саўгасах такую-ж адмоўную ролю адыгрывала дрэннае скарыстаньне машын, абязьлічка, недаацэнка кіруючымі кадрамі саўгасаў цяжкасьцяй, зьвязаных з уборкай і тое, што саўгасы забыліся на свае абавязкі, як вытворцаў таварнай продукцыі, забыліся, што трэба ня толькі засеяць, але і здаць дзяржаве ўстаноўленую колькасьць сваёй продукцыі ва ўстаноўленыя тэрміны.

Найбольш заядлым ворагам ва ўборачнай кампаніі і пераапрацоўцы тэхнічных культур зьяўляўся і зьяўляецца ядоцкі прынцып разьмеркаваньня даходаў. «Гэта буйнешая памылка»—піша «Соцыялістычнае Земляробства» ў перадавым артыкуле—асабліва жорстка адбілася на малацьбе, калі замест таго, каб у першую чаргу выканаць дзяржаўныя абавязацельствы, шмат якія колгасы пачалі разьмяркоўваць хлеб сярод кольгасьнікаў. Некаторыя таварышы парашылі, што па працаднёх будуць разьмяркоўвацца толькі грошы, а продукты—па ядакох. Гэта блытаніна прывяла да таго, што гультаі, людзі, якія любяць карыстацца грамадзкай

працай, атрымалі харч і парашылі, што далей ім ня трэба працаваць. Тыя-ж, хто добра працаваў, парашылі, што калі ўсім даюць пароўну, дык навошта асабліва напружваюць свае сілы».

Паданыя факты мелі месца амаль што ў кожным раёне БССР, з імі трэба рашуча змагацца і не дапускаць іх у далейшым.

Да пяршачнай апрацоўкі ільну і давядзеньня яго ў гатовым выглядзе для здачы дзяржаве патрэбна, каб у колгасах былі прыцягнуты да гэтае работы ня толькі працаздольныя мужчыны і жанчыны, але і падлеткі. У пляне пераапрацоўкі ільну павінна быць прадугледжана пэўная нагрузка на кожнага работніка колгасу, якую ён павінен выканаць. У выпадку сапраўднага недахопу рабочай сілы ў колгасах неабходна скарыстаць узаемадапамогу, якая практыкавался ў некаторых калгасах, і заключэньне дагавароў узаемнай дапамогі з аднаасобнікамі. Колгас аднаасобнікам можа дапамагчы машынамі.

Пры тэтых умовах, пры ўмове плянавага і поўнага скарыстаньня рабочай сілы, посьпех сваячасовай апрацоўкі ільну будзе забясьпечаны.

## IV. Усю работу перавесьці на зьдзельшчыну.

Адным з найбольш важных сродкаў умацаваньня працдысцыпліны і падвышэньня продукцыйнасьці колгаснай працы зьяўляецца зьдзельшчына. Чэрвеньскі плёнум ЦК УсеКП(б), надаючы важнае палітычнае значэньне гэтаму мерапрыемству, запісаў наступнае: «Усе бяз выключэньня работы ў колгасах павінны быць організаваны на асновах зьдзельшчыны з тым, каб самыя формы зьдзельшчыны былі найбольш простымі і зразумелымі кожнаму колгасьніку, і тая колькасьць працадзён, якая павінна быць запісана колгасьніку ў яго працоўную кніжку, была-б запісана без складаных разьлікаў, з улікам пры гэтым ня толькі колькасьці зробленай работы, але і яе якасьці. Саўгасы ў галіне ўжываньня зьдзельшчыны павінны быць такім-жа прыкладам для колгасаў, якімі яны зьяўляюцца ў галіне організацыі вытворчасьці і ўжываньні новых машын». А ўсе работы па пяршачнай апрацоўцы ільну павінны быць абавязкова пераведзены на зьдзельшчыну. Увядзеньне зьдзельшчыны ёсьць найбольш важны момант ва ўсёй падрыхтоўчай рабоце да пераапрацоўкі ільну.

Кожны колгас загадзя павінен выпрацаваць норму на ўсе работы па пяршачнай апрацоўцы ільну: расьцілу, мочцы, мяцьці і трапаньні. Для складаньня норм выпрацоўкі трэба арыентавацца на найбольш працаздольнага работніка, які дае высокую норму выпрацоўкі. Наогул кажучы, трэба раўняцца па лепшых ударніках у колгасе і толькі тады будзе забясьпечана хуткая і своечасовая пераапрацоўка тэхнічных культур.

У выпадку няправільнага ўстанаўленьня норм выпрацоўкі (у большы ці меншы бок) іх неабходна на хаду зьмяніць.

Праўленьням колгасаў трэба паклапаціцца аб тым, каб кожнаму колгасьніку своечасова запісваліся працадні ў яго працоўную кніжку, ня менш, як адзін раз у пяцідзёнку. Найбольш добрасумленных работнікаў колгасу, якія праявілі сябе як лепшых ударнікаў, трэба прэміяваць, ці налічваць ім дадатковыя працадні ад 15—20 проц. Тым-жа, якія працуюць дрэнна і не давыпрацоўваюць нормы, такі-ж самы процант трэба зьніжаць.

Зьдзельшчыну патрэбна арганізаваць шляхам ацэнкі работы ў працаднёх. Форма ўліку ў працаднёх зьяўляецца самай зручнай. У процілегласьць грашовай ацэнцы працы колгасьніка трэба з усёй рашучасьцю высунуць працадзень. Грашовую ацэнку патрэбна выкінуць як няжыцьцёвую і шкодную.

Зьдзельшчына значна падвышае продукцыйнасьць працы. Аб гэтым красамоўна кажуць факты, якія былі зьмешчаны ў нашых цэнтральных газэтах: «Зьвязда», «Савецкая Беларусь», «Колгасьнік Беларусі» і інш.

У газэце «Зьвязда» № 200 зьмешчаны допіс аб саўгасе «Ціхінічы» (Рагачэўскага раёну), дзе паказана, як у выніку ўвядзеньня зьдзельшчыны і разгортваньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва саўгас хутка скончыў уборку сенажаці. «Брыгада Касьцюковіча і Рыжкова перавыконваюць нормы выпрацоўкі. На касьбу 16 **га**, уборку і дастаўку сена ў гумно было вызначана 128 рабочых дзён. Брыгада Касьцюковіча і Рыжкова выканала гэта за 96 дзён. Брыгада Касьцюковіча ў колькасьці 10 чал. скошвала замест нормы 2,5 **га** ў дзень—3,9—4 **га**».

«Колгас Рэс» (Старадароскага раёну) паказвае бальшавіцкія тэмпы ўборкі. На 30 ліпеня колгасам скошана 290 **га** сенажаці, сабрана і складзена ў стагі 25.000 пуд. сена. Уборка сенажаці скончана. Разгорнута ўборка жыта. На 30 ліпеня ўбрана 180 **га**. Такія вынікі дала зьдзельшчына». («Зьвязда» № 207).

«У колгасе «Ударнік» (Гарадоцкага раёну) па ініцыятыве дзяўчат арганізавалася брыгада жанцоў. Брыгада высунула сустрэчную норму: зжаць 5 **га** жыта за 2½ дні замест вызначаных плянам 4 дзён. У выніку правільнай арганізацыі работы на жніве на аснове зьдзельшчыны колгас «Ударнік» скончыў уборку жыта 3 жніўня замест 5 паводле пляну. Ударная брыгада жанцоў узяла на сябе абавязак ня зьніжаць тэмпаў і па ўборцы ільну. Ільну ў колгасе 19 **га**». («Зьвязда» № 209).

«Першае месца па ўборцы ільну займае колгас «Перамога» (Сіроцінскага раёну), у якім на гэты-ж дзень (15 жніўня) быў убраны і замочаны лён з 34 **га.** Ураджай з 2 **га** ўжо замочаны і разасланы. Работа па ўборцы і апрацоўцы ільну ў гэтым колгасе праходзіць конвэерам. Уся работа пераведзена на зьдзельшчыну, брыгады прымацованы да пэўных вучасткаў работы. Колгасьнікі і брыгады, якія перавыконваюць норму выпрацоўкі, прэміруюцца. Усё гэта забясьпечыла 100-проц. выхад колгасьнікаў на работу. За апошні час у колгас уліліся 32 бядняцка-серадняцкія гаспадаркі». («Зьвязда» № 228).

Такі эфэкт продукцыйнасьці даюць усе колгасы, дзе зьдзельшчына ўкаранілася і праводзіцца.

Адным з найбольш важных мерапрыемстваў для пасьпяховага правядзеньня пяршачнай апрацоўкі ільну зьяўляецца перавод выключна ўсіх работ на зьдзельшчыну. Работа ў сельскай гаспадарцы надта рознастайная. Веснавая работа больш стандартнага парадку: ворыва, пасеў, баранаваньне. Але ў час уборкі і пераапрацоўкі тэхнічных культур яна вельмі складаная. Тут работа ня толькі з **га,** але і з цэнтнэра.

Шмат якія колгасы ў час летніх работ казалі, што «ў нас усе работы пераведзены на зьдзельшчыну», але на справе выявілася, што некаторых галін работ яны ўсё-ж такі ня ўлічылі і не падумалі аб пераводзеньні іх на зьдзельшчыну. Акрамя таго, зьдзельшчына ў час веснавое сяўбы і ўборкі некалькі адрозьніваецца паміж сабой. У час уборкі людзей патрэбна расставіць па 10—30 чал. так, каб поўнасьцю забясьпечыць адпаведны вучастак работы і кожнага зацікавіць у рабоце.

Тое-ж самае мы маем у пераводзе работ на зьдзельшчыну пры пераапрацоўцы ільну. У гэтай рабоце як і ва ўборачнай зьдзельшчына павінна быць пастаўлена, з аднаго боку, на аснове колектыўнай работы (брыгада), а з другога боку, на аснове індывідуальнай зацікаўленасьці кожнага колгасьніка ў пасьпяховым выкананьні работы, даручанай усёй брыгдзе.

Пасьпяховы перавод усіх работ на зьдзельшчыну будзе знаходзіцца ў простай залежнасьці ад правільнай арганізацыі ўліку колькасьці і якасьці працы.

Брыгадзір або член праўленьня колгасу павінен абавязкова і рэгулярна, не адкладваючы на «заўтра», запісваць колгасьніку ў яго працоўную кніжку колькасьць і якасьць зробленай ім работы, вылічанай у працаднёх. Гэта асабліва важна ў час ўборкі і пяршачнай апрацоўкі ільну, бо ў гэты час колгасьнікі найбольш заняты работай і можа атрымацца блытаніна ў запісе працадзён, якая пашкодзіць рабоце колгасу і будзе на-руку кулаку ў яго шкодніцкай дзейнасьці супроць колгасаў.

## V. Арганізацыя працы пры апрацоўцы ільну.

Важнейшай умовай, ад якой будзе залежыць посьпех пяршачнай апрацоўкі ільну і наогул тэхнічных культур, зьяўляецца правільная арганізацыя працы. Недахопы пакуль што ў гэтай галіне ёсьць і іх неабходна тэрмінова ліквідаваць. Адным з найбольш важных недахопаў зьяўляецца наяўнасьць абязьлічкі ў гаспадарках саўгасаў і колгасаў. Зьдзельшчына ня можа існаваць разам з абязьлічкай і ўраўнілаўкай. У гэтай галіне саўгасы павінны паказаць колгаснаму сялянству ўзоры соцыялістычнай арганізацыі працы.

У саўгасах і колгасах павінен існаваць узорны парадак арганізаванасьці гаспадаркі, бо яны зьяўляюцца прыкладам для сялянаднаасобнікаў, якія ўлічваюць усе дадатныя і адмоўныя бакі вядзеньня гаспадаркі ў колгасе. У колектыўнай гаспадарцы кожная машына, трактар, конь—павінны мець прымацавага работніка, які за яго нясе адказнасьць перад колектывам.

Сапраўдная зьдзельшчына патрабуе ўліку індывідуальнай працы кожнага работніка. І ні ў якім разе нельга дапускаць, каб заработаныя працадні дзяліліся пароўну паміж усімі членамі брыгады бяз уліку кваліфікацыі работнікаў.

Нельга дапускаць таксама і бюрократычных скажэньняў пры ўжываньні зьдзельшчыны, спробы дыфэрэнцыяваць работы, якія гэтага зусім не патрабуюць, і г .д.

Пры падрыхтоўцы і правядзеньні пяршачнай апрацоўкі ільну партыйныя арганізацыі павінны рашуча весьці барацьбу супроць праваопортуністычных тэорый «чарговасьці» кампаній. Адначасова з правядзеньнем пяршачнай апрацоўкі ільну трэба не забы-

ваць і іншых немалаважных работ, як пабудова і рамонт памяшканьняў для жывёлы, скапчэньне малацьбы і г. д.

Праца ў колгасе павінна быць арганізавана так, каб усямерна спрыяць набыцьцю соцыялістычных звычак працы колгасьнікамі. А таму патрэбна больш шырока скарыстаць брыгадны мэтод работы. Брыгада зьяўляецца найлепшай організацыйнай формай для сумеснай працы колгасьнікаў. Брыгада выхоўвае сваіх членаў у духу колектывізму, узаемнай дапамогі і контролю.

Вялікую ўвагу патрэбна зьвярнуць на дысцыплінаванасьць колгасьнікаў і адказнасьць за даручаную ім работу. Гультаі, прагульшчыкі, рвачы павінны рашуча выкрывацца і прыцягвацца да адказнасьці згодна статуту колгасу. З другога боку найбольш добрасумленныя работнікі—ударнікі павінны заахвочвацца і прэміявацца.

Масавая работа павінна быць накіравана да таго, каб маса колгасьнікаў усьвядоміла задачу падвышэньня продукцыйнасьці працы як асноўную рашаючую задачу, ад вырашэньня якой залежыць далейшы ўздым і разьвіцьцё колгаснай гаспадаркі.

Колгасная брыгада высунута самім жыцьцём і зьяўляецца найлепшай вытворчай адзінкай. Брыгада найбольш гнуткая і паваротлівая вытворчая адзінка, ужываньне якой дае магчымасьць колгасу хутка справіцца з работай.

Вытворчая гнуткасьць брыгады дасягаецца тым, што: у брыгадзе ўстанаўліваецца адзінаначальле ў кіраўніцтве, брыгада як вытворчая адзінка зьяўляецца рухлівай часткай колгасу, не прымацованай да тэрыторыі і ня мае сваёй канцылярыі.

Вытворчая брыгада колгасу організуецца ў колькасьці адпаведна тэй велічыні работы, якую яна будзе выконваць. Брыгадзір прызначаецца праўленьнем колгасу. Ён асабіста адказвае за ўсю даручаную яго брыгадзе работу. Брыгадзір атрымлівае вытворчае заданьне, разьмяркоўвае абавязкі паміж членамі брыгады, устанаўлівае на аснове норм выпрацоўкі тэрмін выкананьня, вядзе ўлік колькасьці і якасьці выкананай кожным колгасьнікам работы і назірае за даручанымі яму машынамі, коньмі і г. д. Брыгадзір запісвае кожнаму колгасьніку працадні ў яго працоўную кніжку.

Брыгады могуць быць організаваны спэцыяльныя, напрыклад: поліва, церабленьня ільну, трапаньня ільну і г. д., ці комбі-

наваньня, напрыклад: ворыва, баранаваньня і пасеву, жніва, возкі, малацьбы і г. д. Калі брыгада арганізуецца на доўгі час, дык яна сталая, а на кароткі тэрмін для выкананьня пэўнага заданьня—часовая.

Ва ўсіх ільнаводных колгасах павінны быць створаны спэцыяльныя брыгады, якія праводзяць як уборку ільну, так і апрацоўку яго. Брыгада прымацоўваецца да той або іншай конкрэтнай галіны работы і выконвае яе да канца. Склад брыгады можа зьмяняцца ў залежнасьці ад патрэб у рабочай сіле на той ці іншай рабоце, але асноўнае ядро брыгады ні ў якім разе не павінна зьмяняцца да канца пераапрацоўкі ільну. Гэтым самым ліквідуецца абязьлічка ў давядзеньні работ да канца і атрыманьні чыстай продукцыі зярна і валакна. Да брыгады павінны быць прымацаваны машыны і цягавая сіла. Прызначаны ў пачатку работ брыгадзір павінен заставацца ўвесь час да канца работ бяз зьмены.

Частая зьмена брыгадзіраў значна пашкодзіць усей рабоце, якая будзе праводзіцца. Кожны колгасьнік у час работ павінен дакладна ведаць аб'ём работы, задачу работы і тэрмін яе сканчэньня.

Улічваючы вялікую патрэбу ў хутчэйшай здачы ільнавалакна, неабходна як мага хутчэй скончыць усе работы з ільном. Для гэтае справы неабходна арганізаваць соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Спаборніцтва павінна праходзіць ня толькі паміж колгасамі, але паміж брыгадамі і ўнутры брыгады паміж асобнымі членамі яе.

Шмат якія колгасы ў мінулым годзе зрабілі вялікую палітычную памылку, дазволіўшы ўбіраць колгасьнікам спачатку свае неаграмаджаныя плошчы, а потым ужо ўзяцца за колгаснае поле. З гэтае прычыны работа колгасу зацягнулася і лён шмат у якіх колгасах загінуў ня ўбраным на полі, ці не апрацаваным у гумне. У першую чаргу павінны быць зроблены ўсе работы колгасу па пераапрацоўцы ільну, а потым індывідуальныя работы колгасьніка.

Для таго, каб узьняць арганізацыю колгаснай працы на вышэйшую ступень, неабходна дабіцца добрай расстаноўкі сіл і максымальнага іх скарыстаньня. Захаваньне старых спосабаў і мэтодаў працы, якія засталіся яшчэ ад дробнай аднаасобнай гаспадаркі і няўменьне адразу хутка перайсьці да новых форм работы,

вельмі перашкаджае колгасу ў наладжваньні гаспадаркі. Рацыяналізацыя сельскай гаспадаркі амаль што непачаты вучастак работы. Трэба як найхутчэй рухаць гэтую справу рознымі спосабамі, заахвочваючы колгасьнікаў і растлумачваючы ім вялікае значэньне рацыяналізатарскай работы. Часьцей трэба склікаць вытворчыя нарады і праводзіць збор прапаноў ад колгасьнікаў.

Вялікую ролю адыгрывае мерапрыемства па ўцягваньні жанчын ва ўсе віды работ колгасу. У некаторых колгасьнікаў існуе такая думка, што жанчыне можна даручаць ня ўсе работы, а толькі некаторыя, як, напрыклад, уборка і апрацоўка ільну, гародніны і г. д. Некаторыя лічаць, што толькі яны павінны зьяўляцца адзіным выканаўцам усіх работ, зьвязаных з уборкай і апрацоўкай ільну. Такі погляд ёсьць шкодны і супроць яго неабходна весьці самую рашучую барацьбу. Не павінна быць такога становішча, калі жанчыны будуць усе сілы пакладаць на работу па пяршчанай апрацоўцы ільну, а мужчыны вольныя ад іншай работы будуць сядзець, склаўшы рукі. Пры такіх умовах, зразумела, работа па пераапрацойцы ільну ня будзе поўнасьцю выканана і лён можа загінуць, а гэта ў сваю чаргу адаб'ецца на сыравіннай базе лёгкай прамысловасьці.

Неабходна, каб усе работы па пяршачнай апрацоўцы ільну былі найлепш організаваны. Усе працоўныя сілы колгасу павінны быць максымальна скарыстаны. Некаторыя таварышы схільны думаць, што поўнасьцю жаночую працу мы можам скарыстаць толькі тады, калі ў нас усюды будуць організаваны ўзорныя дзіцячыя сады і ясьлі. Гэта было-б добра, але зараз мы ня можам яшчэ забясьпечыць усіх дзяцей дзяржаўнымі дзіцячымі садамі і ясьлямі. Неабходна ў колгасах у час сьпешных работ організаваць прымітыўныя дзіцячыя ачагі, напрыклад, даручэньне аднэй колгасьніцы 10—15 дзяцей, прыцягненьне бабулек да гэтае справы, каб яны ў часе работ жанчын даглядалі іх дзяцей.

Акрамя таго, існуе проста недаацэнка жаночае працы. Ёсьць выпадкі, калі адна і тая-ж па колькасьці і характару работа аплачваецца мужчыне і жанчыне неаднолькава. Таксама зусім мала брыгадзіраў колгасьніц.

Дырэктывы ЦК КП(б)Б аб уцягненьні жанчын колгасьніц ва ўсе галіны сельскае гаспадаркі колгасамі ажыцьцяўляюцца вельмі слаба. Масавая растлумачальная работа сярод жанчын

аб арганізацыі працы ў колгасе, разьмеркаваньне даходаў і г. д. не пастаўлена як належыць, а таму колгасьніца нядобра ўсьвядоміла сабе ўсю важнасьць і неабходнасьць актыўнага ўдзелу ва ўсіх работах колгасу.

У гэтым годзе па БССР шмат было выпадкаў, калі нават на ўборцы тэхнічных культур у колгасах з 50—60 чал. жанчын выходзіла на работу 10—15 чал. Астатнія займаліся сваёй хатняй справай. Бывалі і іншыя ненормальныя зьявішчы ў парушэньні працдысцыпліны.

Такое становішча надалей заставацца ня можа, таму што нявыхад значнай часткі жанчын у некаторых колгасах на работу і праяўленьне недысцыплінаванасьці можа значна адбіцца на рабоце, якую праводзіць колгас па пераапрацоўцы тэхнічных культур.

Саўгасным і колгасным парторганізацыям патрэбна зараз-жа ва ўдарным парадку праверыць, як ажыцьцяўляецца пастанова ЦК аб уцягненьні жанчын ва ўсе віды работы, пры адначасовым масавым уцягненьні жаночае працы ва ўсе галіны колгаснай вытворчасьці.

Асаблівую ўвагу патрэбна зьвярнуць на пытаньне правядзеньня масавай работы сярод жанчын, шырока растлумачваючы ім неабходнасьць укараненьня зьдзельшчыны, разьмеркаваньня даходаў колгасу па рабоце ў процілегласьць ураўнілаўцы, якая падрывае матэрыяльную зацікаўленасьць у рабоце.

У раёнах з пераважна тэхнічнымі культурамі прыцягненьне ўсіх жанчын да працы мае асабліва важнае значэньне. А таму неабходна ўзмацніць культурна-масавую работу сярод колгасьніц, прывіваючы ім колектыўныя звычкі ва ўсёй рабоце.

Для правядзеньня работ па пяршачнай апрацоўцы ільну магчыма арганізаваць, акрамя агульных, спэцыяльныя жаночыя брыгады, якія цалкам сябе апраўдалі ў час правядзеньня работ па ўборцы ўраджаю.

Неадкладная задача партячэек колгасаў і праўленьняў заключаецца ў тым, каб забясьпечыць жанчыне магчымасьць аўладаць машыннай тэхнікай і такім чынам уключыцца ва ўсе галіны сельскагаспадарчай вытворчасьці. На час пяршачнай апрацоўкі ільну трэба прымацаваць жанчын да пэўных машын, якія яны павінны вывучаць і працаваць на іх.

Усе пытаньні, зьвязаныя з аўладаньнем машыннай тэхнікай колгасьніцамі, абмеркаваць на жаночых вытворчых нарадах, або дэлегацкіх сходах і там намеціць практычныя мерапрыемствы, якія-б забясьпечылі ў мінімальна кароткі тэрмін аўладаньне жанчынамі машыннай тэхнікай.

Правільная організацыя жаночай працы ў колгасах, максымальнае ўцягненьне колгасьніц у кампанію пяршачнай апрацоўкі ільну і загатоўчую кампанію, зьяўляецца аднэй з асноўных задач масавай работы парторганізацыі ў вёсцы.

Пяршачная апрацоўка тэхнічных культур патрабуе мобілізацыі і правільнага скарыстаньня ўсіх сіл колгасу. Тэхнічныя культуры і ў прыватнасьці лён патрабуюць вялікіх затрат чалавечае працы. Савецкая ўлада ўжыла ўсе неабходныя захады, каб мэханізаваць процэсы апрацоўкі ільну і вызваліць чалавека ад цяжкае працы па яго апрацоўцы.

У гэтым годзе ўпяршыню ў ільнаводных раёнах працавалі МТС. Рад заводаў выпусьцілі значную колькасьць уборачных машын і машын па пяршачнай апрацоўцы ільну. Аднак, ня гледзячы на ўжытыя захады для мэханізацыі процэсаў уборкі і пераапрацоўкі тэхнічных культур, асноўныя опэрацыі па пераапрацоўцы ільну будуць рабіцца ручным спосабам. Чэрвеньскі пленум ЦК УсеКП(б) па гэтым пытаньні запісаў наступнае: «У галіне ўборкі тэхнічных культур у мінулым годзе асабліва вялікія былі страты, выкліканыя дрэннай організацыяй уборачнай кампаніі, пры поўнай адсутнасьці мэханізацыі ўборкі. Пры значным росьце таварнай продукцыі па ўсіх тэхнічных культурах і, улічваючы, што мэханізацыя толькі пачалася,—уборка і пяршачная пераапрацоўка ў асноўным будзе і ў гэтым годзе рабіцца рукамі і коннным інвэнтаром. У адпаведнасьці з гэтым пленум Цэнтральнага комітэту зьвяртае ўвагу партыйных організацый, зямельных органаў і колгасаў на неабходнасьць: а) прадуманай організацыі ўсёй уборачнай кампаніі, на аснове ўдзелу ўсяго колгаснага насельніцтва ва ўборцы і пры суровым ажыцьцяўленьні зьдзельшчыны; б) скарыстоўваньні, у асаблівасьці ў адносінах ільну і канапель побач з заводамі па пяршачнай апрацоўцы, прымітыўных спосабаў палягчэньня працы колгасьнікаў».

Такім чынам умовы пяршачнай апрацоўкі ільну ў зьвязку з тэхнічнай адсталасьцю мэханізацыі тэхнічных культур пакуль што яшчэ застаюцца цяжкімі і патрабуюць напружаньня ўсіх сіл для пасьпяховага і поўнага сканчэньня апрацоўкі і здачы (продажу) гатовай продукцыі дзяржаве.

## VI. Арганізаваць і ў тэрмін здаць продукцыю ільнавалакна.

Організацыя здачы (продажу) ільнасемя і ільнавалакна дзяржаве зьяўляецца буйнейшай політычнай кампаніяй, якая павінна праверыць клясавую чуласьць і працаздольнасьць нашых партыйных організацый, праўленьняў колгасаў і сельсаветаў. Кулакі і іх агенты ў радох нашай партыі—опортуністы паспрабуюць пашкодзіць справе вялізарнейшай важнасьці—забясьпечаньню сыравінай нашай лёгкай прамысловасьці.

Партыя разам з рабочай клясай і колгасным сялянствам, якое дзякуючы шпаркім тэмпам разьвіцьця колектывізацыі стала надзейнай апорай савецкай улады ў вёсцы—будзе весьці бязьлітасную барацьбу з усімі, хто паспрабуе парушыць мерапрыемствы партыі і савецкай улады па вырашэньні проблемы тэхкультур і забясьпечаньня сыравінай нашай лёгкай прамысловасьці.

Колгаснае сялянства стала ўжо ня толькі асноўнай апорай партыі ў вёсцы, але і цэнтральнай фігурай нашага земляробства. Кулацтва—самая моцная апора капіталістычнай улады—сыстэматычна ліквідуецца намі як кляса на аснове суцэльнай колектывізацыі.

Ня гледзячы на вялізарнеўшую перамогу над усімі буржуазнымі і дробна-буржуазнымі плынямі, якія былі ўнутры партыі (трацкізм, правы ўхіл, нацыянал-опортунізм і г. д.)—нельга разброівацца і паслабляць сваёй клясавай пільнасьці. Мы маем факты, калі ўжо пасьля капітуляцыі правадыроў правага ўхілу (Бухарынская група), з боку правых ухілістаў былі адкрытыя вылазкі. А таму—больш клясавай пільнасьці, мацней агонь па ўсякіх спробах працягнуць праваапортуністычныя ўстаноўкі.

Кулацкі характар правага опортунізму ў нашых умовах падкрэсьліваўся не адзін раз. Правыя трымаюць курс на самацёк, на зрыў і затармажэньне нашых тэмпаў. У гэты пэрыод (калі тэмпы вырашаюць усё)—правы опортунізм унутры партыі застаецца га-

лоўнай небясьпекай. Усе нашы дасягненьні па будаўніцтве социялізму зьяўляюцца вынікам жорсткай барацьбы з опортунізмам. Хто лічыць барацьбу з опортунізмам другараднай справай, лічыць, што гэта справа мінулага—той на справе дапамагае опортунізму.

Правы опортунізм мае саюзьніка ў асобе «левага» опортунізму, які забягае наперад і фактычна змыкаецца з правым. У выніку мы маем права-«лявацкі» блёк, які фактычна дапамагае клясаваму ворагу, супроць якога партыя вядзе жорсткую барацьбу і без якой немагчыма было-б весьці масы на будаўніцтва социялізму.

«Левы» опортунізм у колгасах выяўляецца ў абароне ўраўнілаўкі, абязьлічкі, барацьбы супроць зьдзельшчыны і г. д.

Такім чынам ня можа быць пасьпяховай барацьбы з асноўнай права-опортуністычнай небясьпекай у радох нашай партыі без барацьбы з «левымі» опортуністамі, без выкрыцьця іх дробнабуржуазных карэньняў.

Зараз, калі партыя ідзе да важнейшай палітычнай кампаніі—загатовак ільнавалакна і іншых тэхнічных культур—павінна быць поўнасьцю забясьпечана клясавая чуласьць і бальшавіцкая організаванасьць нізавых зьвеньняў парторганізацыі на выкананьне важнейшых політычных кампаній.

Павінен быць поўнасьцю ажыцьцёўлен лёзунг павароту вясковых ячэек да колгаснай і саўгаснай вытворчасьці. Партыйныя ячэйкі саўгасаў і колгасаў павінны дакладна абмеркаваць пляны загатоўчых кампаній тэхнічных культур і мобілізаваць масы на хутчэйшае іх правядзеньне. Комуністы і комсамольцы павінны быць у першых радох ударнікаў па выкананьні заданьня партыі аб вырашэньні проблемы тэхнічных культур.

Партячэйкі праз ударнікаў павінны ўзьняць хвалю соцспаборніцтва і ўдарніцтва па хутчэйшым скончэньні пяршачнай апрацоўкі ільну і здачы гатовай продукцыі дзяржаве. Вопыт паказаў, што ў тых колгасах і саўгасах, дзе праца была організавана на аснове комуністычных мэтодаў, вынікі работы найлепшыя. Рад колгасаў ужо здаў дзяржаве ільнасемя і падрыхтоўваецца да здачы ў хуткім часе ільнавалакна.

Пры правядзеньні пяршачнай апрацоўкі ільну і падрыхтоўкі да здачы гатовай продукцыі дзяржаве патрэбна зьвярнуць асаблі-

вую ўвагу на аднаасобны сэктар, які вырабляе яшчэ значную частку таварнай продукцыі тэхнічных культур. Патрэбна шырока разгарнуць масавую работу сярод бядняцка-серадняцкіх мас аднаасобнікаў, зьвязваючы гэтую работу з далейшым разьвіцьцём колектывізацыі.

Трэба разгарнуць масавую работу вакол організацыі чырвоных абозаў з ільнавалакном для здачы на загатоўчыя пункты.

Трэба популярызаваць ільготы, якія даюцца пасеўшчыкам ільну. Колегія НКЗ БССР устанавіла наступныя каляндарныя тэрміны для сканчэньня мяцьця і трапаньня ільну ва ўсіх раёнах БССР:

У верасьні 5 проц. ільнавалакна.

У кастрычніку 20 проц. ілнавалакна.

У лістападзе 30 проц. ільнавалакна.

У сьнежні 15 проц. ільнавалакна.

У студзені 20 проц. ільнавалакна.

У лютым 5 проц. ільнавалакна.

У сакавіку 5 проц. ільнавалакна.

Здача татовай продукцыі ільнавалакна НКЗ БССР устаноўлена ў наступныя тэрміны:

У верасьні—сьнежні 70 проц. ільнавалакна.

У студзені—сакавіку 30 проц. ільнавалакна.

У кастрычніку 100 проц. ільнатрасты.

Саўгасы і колгасы павінны ўсю сваю работу пабудаваць такім чынам, каб здачу продукцыі правесьці дасканала ва ўстаноўлены тэрмін. Ніякіх адхіленьняў ад указаных тэрмінаў не павінна быць.

Партыйныя ячэйкі і сельсаветы павінны правесьці шырокую растлумачальную работу сярод бядняцка-серадняцкіх мас аднаасобнікаў аб неабходнасьці своечасовай і поўнай здачы ільнавалакна дзяржаве.

Бальшавіцкімі тэмпамі, конкрэтным опэрацыйным кіраўніцтвам забясьпечым поўнае і сваячасовае выканаьне задач па першачнай пераапрацоўцы ільнавалакна і ў тэрмін здачу продукцыі дзяржаве.

Сваячасовае і поўнае выкананьне пляну загатовак ільнавалакна створыць умовы для бесьперабойнай работы нашай лёгкай прамысловасьці і палегчыць цяжкасьці ў забясьпечаньні насельніцтва фабрычна-заводзкімі таварамі.

## З ІНСТРУКЦЫІ ПА ПЯРШАЧНАЙ АПРАЦОЎЦЫ ІЛЬНУ.

### І. Сьцілка.

1. Улетку павінны быць выяўлены ўсе плошчы, якія могуць быць скарыстаны для сьцелішч.

2. У сьцелішчных раёнах, у выпадку недахвату сьцелішч, ужываецца мочка ільну.

3. Найлепшым сьцелішчам лічацца сенажаці з сярэдняй вільготнасьцю на берагох рэк, раўчакоў і азёр, з нявысокім шчыльным травастоем. Пасьля іх—сухадольныя сенажаці, захаваныя ад ветру, і канюшынішчы. Далей—пожня. На канюшынішчы і пожні лён сьцелюць у тым выпадку, калі ў наступным годзе яны ня пойдуць пад засеў ільну.

4. Належыць унікаць нізінных, залішне вільготных, узвышаных, прыступных для ветру і забалочаных іржавых сенажацяй.

5. Найлепшым часам для сьцілкі лічацца жнівень і першая палова верасьня.

6. Сьцілка павінна рабіцца зараз-жа пасьля абчосу галовак.

7. Пры абчосваньні або абмалоце саломка абавязкова сартуецца раскідай снапоў (пры абмалоце снапамі) ці раскладкаю жмень (пры абчосваньні) на 2—3 сарты, паводле даўжыні і на 2 сарты па колеру: 1-шы—сьветлазялёны або сьветлажоўты і 2-гі—рэшта колераў (цёмназялёны, буры).

Пры значнай розьніцы ў таўшчыні сьцяблінак лён сартуецца і па таўшчыні.

8. Кожны сорт расьцілаецца асобна, таксама ўбіраецца і апрацоўваецца.

9. Сьцелюць лён тонкім, роўнамерным пластом. На **1 га** расьцілаюць прыблізна 2—3 **т** саломкі, або на 1 **га** сьцелішча расьцілаецца ўраджай прыблізна з 1—1,5 **га** ільну.

10. Лён, які напалову вылежаўся, пераварачваецца даўгою, тонкаю, завостраную тычкаю (каля 3 мэтраў) на другі бок.

11. Для нагляданьня за сьцелішчам і ходам лёжкі назначаецца спрактыкаваная адказная асоба. На абавязку яе ляжыць папраўка зьбітых ветрам або скатам радоў ільну, вызначэньне канца вылежкі, паводле ўзятых «спроб» трасты, падсушка апошніх і апрацоўка.

12. Лёжка ільну, у залежнасьці ад надвор'я, часу і месца расьцілу, цягнецца ад 2 да 4 тыдняў.

13. Пасьля вылежкі лён падбіраецца і ставіцца ў бабкі для прасушкі, прыблізна да сухасьці канюшыннага сена.

14. Перад зьвязаньнем у снапы (вагою 2—3 **кг**) траста сартуецца, паводле ступені вылежкі, і снапы па сартох складваюцца асобна.

15. Снапы зараз-жа звозяцца са сьцелішча ў месца схову—у адрыну ці пад паветку, а калі гэтых памяшканьняў няма, дык складваюць ў скірт.

16. Пасьля ўборкі трасты са сьцелішча трэба коннымі або ручнымі граблямі сабраць рэшткі зблытанага ільну для апрацоўкі ў рванку.

17. Пры выкананьні ўсіх гэтых работ трэба ўважліва адносіцца да трасты, каб яна ня блыталася, камлі выраўніваліся і г. д.

## 2. Мочка.

1. Улетку трэба выявіць усе здатныя для мочкі вадаёмы і прывесьці іх у парадак (ачыстка, рамонт і г. д.), а таксама арганізаваць новыя вадаёмы (пабудова новых ям, копанак і г. д.).

2. У раёнах мочкі ільну, у выпадку недахвату вадаёмаў і мачыльных ям, ужываюць сьцілку.

3. Мочка робіцца ў натуральных вадаёмах (рэчкі, ручаі, азёры, сажалкі і г. д.) са стаячай вадою і праточанай, але ня быстрай, на глыбіні 2,0—2,5 **м** і ў штучных ямах ці копанках з напусканьнем і выпусканьнем вады. Вада не павінна быць іржавай.

4. У натуральных вадаёмах мочка робіцца ў скрынях—балёнах, плытох, або лён проста загружаецца ў ваду (у невялікіх сажалках).

5. Разьмер скрынак: ня больш 3,5 **м** шырыні і даўжыні, вышыня 1,25 **м.** Умяшчальнасьць да 1 **т** саломы.

Рама скрынкі робіцца з брускоў, а сьценкі і дно ў выглядзе крат з дошчак.

6. Загрузка скрынак робіцца на беразе вадаёму. Снапы закладаюцца старчма: ніжні рад камлямі ўніз, а верхні на яго камлямі ўверх, прыкрываючы сваімі верхавінамі верхавіны ніжняга раду.

7. Плыты вяжуцца на беразе вадаёму. Тры жэрдкі кладуцца ўніз—адлегласьць паміж крайнімі 1 **м.** На плыт упоперак накладаюцца ў 4—5 радоў снапы верхавінамі ў сярэдзіну, камлямі—у знадворны бок. Зьверху снапоў кладуцца таксама тры жэрдкі і канцы іх моцна зьвязваюць з канцамі ніжніх жэрдак. Каб плыт не перакульваўся, яго таўшчыня ў вадзе не павінна перавышаць шырыні.

У плыт нагружаецца каля 0,5 тоны ільну.

8. Нагружаныя скрыні і плыты стоўкваюць з берагу ў ваду.

9. Штучныя ямы звычайна капаюць каля паваротаў рэчак, каб вада ў рэчцы стаяла вышэй гэтага месца і ў яму яе можна было лёгка напускаць. Для спусканьня вады павінен быць схіл.

10. Ямы і копанкі робяцца па-рознаму. Звычайны разьмер: даўжыня 10 **м**, шырыня 5 **м**, глыбіня 2 **м**, а ў копанцы—1,5 **м.**

У палепшанай яме дно і сьценкі шчыльна абкладаюцца дрэвам, каб у глебу не сьцякала вада з ямы.

У палепшанай копанцы сьценкі робяцца спадзістымі, але дрэвам не абкладваюцца. Вада ў іх напускаецца з вадаёму па жолабе, а для спуску яе пад кут ямы падводзіцца труба з адтулінай, якая шчыльна затыкаецца шпунтам. Для простае копанкі выкопваецца яма са спадзістымі сьценкамі, дзе натуральным спосабам зьбіраецца вада і ня спускаецца.

Умяшчальнасьць гэтых мачылішч пры адзначаных разьмерах: яма—да 7 **т** саломы, палепшаная копанка—да 6 **т** і простая—да 3 **т.**

11. Загрузка снапоў у ямы робіцца таксама, як і ў скрыні. Укладка пачынаецца ад сьценак у напрамку сярэдзіны, адначасова ў ніжні і верхні рад і робіцца па магчымасьці шчыльная.

У палепшаную копанку снапы кладуцца лежмя, радкамі і так, каб камлі аднаго снапа накрывалі верхавіну другога.

Таксама загружаецца і простая копанка, напоўненая вадой: на паверхню апошняе вілкамі кладуць снапы і яны паступова пагружаюцца ў ваду.

12. Перад мочкай таксама, як і перад расьсьцілам, лён павінен сартавацца і мачыцца асобна па сартох.

13. Паверхня загружанага ільну абавязкова павінна быць на 2—3 вяршкі пакрыта вадою. Для гэтага на яго накладваюць розны груз (каменьне, бочкі з вадою і г. д.), а на скрыні і ямы пад груз падкладваюцца дошкі або жэрдкі.

14. Загружаныя ямы заліваюцца вадою. Першая вада праз суткі спускаецца і замяняецца сьвежаю, а потым кожныя суткі вада спускаецца прыблізна на 1/4 ямы і зараз-жа дапаўняецца сьвежай.

15. Пад канец мочкі салома імкнецца спусьціцца на дно мачылішча. Гэтага нельга дапушчаць, груз паступова здымаецца, каб лён быў пад вадою заўсёды на адным узроўні.

16. Мочка, у залежнасьці ад тэмпэратуры вады, працягваецца 8—15 дзён.

17. Мочка ў скрынях, плытох, палепшаных ямах і копанках праводзіцца датуль, пакуль трэста ня будзе зусім гатовай. У простых копанках, дзе вада не зьмяняецца, мочку канчаюць, як толькі мокрая салома пачне лёгка ламацца і валакно аддзяляцца ад кастрыцы.

18. За ходам мочкі мачыльшчык увесь час уважліва назірае.

19. Вызначэньне канца мочкі робіцца выключна на падставе «спроб». З розных месц мачылішча бяруцца спробы наглядчыкам, прасушваюцца і апрацоўваюцца. У апошнія дні такія спробы бяруцца па 2—3 разы на дзень.

20. Па сканчэньні вымачкі ў скрынях і плытох яны зараз-жа выцягваюцца з вады і разгружаюцца. Каб сьцякла са снапоў вада, яны шчыльна расстаўляюцца на зямлі, потым разьвязваюцца, а трэста ставіцца ў бабкі для прасушкі і адбелкі.

Пры вымачцы ў палепшаных ямах і копанках вада спускаецца, снапы зараз-жа выкідваюцца і расстаўляюцца для прасушкі і адбелкі.

Пры мочцы ў простых копанках недамочаная салома выгружаецца і расьсьцілаецца на поплаве. Таўшчыня пласту можа быць крыху большай, як пры звычайным расьсьціле. На поплаве

трэста на працягу 6—7 дзён адбельваецца і набывае нормальны выгляд.

21. У палепшаных ямах і копанках дно і сьценкі пасьля выгрузкі абліваюцца вадой і зноў загружаюцца.

У простых копанках, бяз зьмены вады, наступную партыю можна мачыць толькі праз 1—1,5 месяца.

22. Найпрасьцейшай зьяўляецца мочка ў натуральных вадаёмах—у плытох, а таму пры дастатковай іх колькасьці яна і рэкомэндуецца для шырокага ўжываньня.

23. Гатовая трэста, зьвязаная ў снапы (вага 2—3 **кг**), звозіцца для ўкладкі ў месца схову.

### 3. Хаваньне.

1. Для хаваньня трэста складаецца асобна па сартох у накрытых адрынах або пад паветкай з адкрытымі бакамі, а пры адсутнасьці такіх памяшканьняў—у скірты.

2. Ва ўсіх выпадках трэста складаецца на сьцелажах, жэрдках, гальлі або сухой кастрыцы. Апошні спосаб—найлепшы.

Сьцелажы ў накрытых памяшканьнях робіцца на вышыні ад зямлі 20—30 **см** і ў скіртах—50—60 **см.**

3. У адрынах і пад паветкамі трэста складаецца ў штабэлі, акуратна, сноп да снапа.

4. Скірты складаюцца круглыя або квадратныя. Лепшым разьмерам лічыцца для круглых—дыямэтр асновы 7 **м,** вышыня 9 **м;** для квадратных—7 **м** бок квадрату пры той-жа вышыні. Умяшчальнасьць такіх скіртаў 25—30 **т** трэсты (ураджай з 12—18 **га**).

5. Большых скірт рабіць ня варта, бо маленькую скірту лягчэй закончваць, і трэсту з такое скірты хутчэй можна апрацаваць, не пакідаючы яе раскрытай.

6. Няскончаныя скірты да наступнага дня закрываюцца радніной, саламянымі матамі і г. д. Пры паступовай выбарцы трэсты са скірты для апрацоўкі ня можна пакідаць скірту адкрытай.

7. Скірты павінны ўкладвацца асабліва старанна спрактыкаванымі работнікамі.

Лягчэй і хутчэй складаюцца квадратныя скірты.

8. Сярэдзіна скірты павінна быць вышэй краёў. А таму снапы, абернутыя камлямі ў знадворны бок, кладуцца з нахілам ад сярэдзіны да краёў на 30—35°. Такое ўкладваньне забясьпечвае ад зацёку ў сярэдзіну дажджавой або сьнегавой вады.

9. Круглая скірта да $1/3$ вышыні паступова пашыраецца, потым паступова звужваецца да верху (таксама, як стагі сена). Квадратная скірта—да паловы вышыні крыху пашыраецца, а з паловы пачынае заканчвацца ў 2-х або 3-х спадзістую стрэшку.

Стрэшка скірты (верхнія 2—3 рады) выкладваецца з бракоўнай трэсты або ільняной саломкі.

10. Бакі скірты павінны мець роўную паверхню. Асабліва шчыльна і гладка «пад шчотку» ўкладаюцца стрэшкі.

11. Трэба памятаць—чым сушэйшаю трэста зложана, тым лепш яна захоўваецца.

12. Правільна зложаная трэста з нормальнай вільготнасьцю траціць ад псаваньня пры захоўваньні ў адрыне 1—2 проц., у скірце—3—5 проц., а пры нядбайнай укладцы 10—15 проц.

13. Хаваньне саломкі нічым ня розьніцца ад хаваньня трэсты.

14. За хаваньнем назірае вылучаны чалавек, які сочыць за тым, каб трэста не саграваласся, не загнівала і не прамакала ад дажджу.

## 4. Сушка трэсты перад апрацоўкай.

1. Апрацоўка трэсты робіцца асобна па сартох, у парадку вызначанай чаргі. Таксама яна і сушыцца.

2. Сушка праводзіцца ў ёўнях, лазьнях і іншых прымітыўных сушнях; ёўні і лазьні павінны быць добра заканапачаны.

3. Падсушка робіцца пры мернай гарачыні ў 60—70°.

Сушка, якая звычайна праводзіцца пры 90° і вышэй, дае трэсту перасушаным, жорсткім і цёмным валакном. Атрымліваецца меншы выхад доўгага валакна і больш кудзелі.

4. Лічыцца, што ў трэсьце павінна заставацца ня больш 6—7 проц. вільгаці (верхавінкі з трэскам лэмяцца).

5. Для лепшай і больш хуткай сушкі снапы належыць разьвязваць. Пры насадцы на каласьнік яны павінны растрасацца і расьцягвацца ў тонкія пласты і прысланяцца адзін да аднаго роўна, без асаблівага ўшчыльненьня.

6. У якасьці апалу, побач з іншымі відамі, належыць скарыстаць кастрыцу.

7. Па сканчэньні сушкі трэста выгружаецца, калі магчыма не адразу, а ў меру прапусканьня яе праз мяліцу.

8. Мяць гарачую трэсту ня трэба.

9. Пры сушцы неабходна акуратнае абыходжаньне з трэстай, каб унікнуць зблытаньня яе, а значыцца і страты.

## 5. Мяцьцё.

1. Мяць трэсту трэба так, каб кастрыца па ўсім сьцябле, асабліва ў верхняй яго частцы, была паломана на кавалачкі не даўжэй 1 **см.** Адначасова трэба сачыць за тым, каб валакно не перасякалася і ня рвалася.

2. Найлепшай мяльнай машынай трэба лічыць 6-ці парвальную мяліцу, якая працуе на конным прыводзе з лікам абаротаў вальцаў 80—90 у мінуту.

3. У залежнасьці ад наяўнасьці мяліц, мяцьцё робяць на шчылінных мяліцах, а таксама драўляных і вальцавых розных тыпаў.

4. Для падрыхтоўкі трэсты перад пускам у мяліцу да століка апошняй прыстаўляецца раскладны стол даўжынёй 3 **м** і шырынёй 0,8 **м.** Да рабочага краю стала прыбіваецца дошчачка такой таўшчыні, каб яна была вышэй паверхні стала на 10—12 **см.** Аб гэтую дошчачку абіваюцца камлі трэсты.

5. Жмені трэсты, у залежнасьці ад сухасьці і вылежкі, пускаюцца ў мяліцу вагою ад 110—170 **г** (у сярэднім 140 **г**), таўшчынёю 4—5 **см** (абхват пальцаў сярэдняй рукі пры моцным суцісканьні).

За адну мінуту ў мяліцу падаецца 25—35 жмень.

6. Той, хто прымае жмені з мяліцы на паўабароту іх, перакручвае і складае на століку ў вязанкі, а дрэнна прамятыя на другім стале—для паўторнага пропуску.

7. Вязанка з 40—50 жмень туга зьвязваецца з канцоў дзьвюма вяровачкамі.

8. Нормальная работа і продукцыйнасьць мяліцы залежыць ад яе спраўнасьці, правільнае ўстаноўкі і рэгулёўкі, ад падачы добра высушанай трэсты і ўмелай падачы ў мяліцу.

9 Пры гэтых умовах трэста прапускаецца праз мяліцу адзін раз.

10. Мяліца ставіцца ў адрыне ці пад паветкай, побач з сушняй.

### 6. Трапаньне.

1. Ручное трапаньне робіцца, паводле тых спосабаў і хватак, якія практыкуюцца ў раёне.

2. Жменя пры трапаньні павінна прапрацоўвацца наскрозь, г. зн. да аднолькавай чыстаты поля і галоўкі (жменевая апрацоўка). Жменевае валакно не павінна мець кастрыцы больш 2 проц.

3. Высокасортны лён, які лёгка паддаецца трапаньню, апрацоўваецца пасьля 2—3 дзён вылежкі. Рэшта ільну трэплецца проста з-пад мяліц.

4. Трапальшчык павінен працаваць наступным чынам: акуратна ўзяць з вязкі жменю сырцу, два-тры разы кароткім, але моцным рухам рукі ўстрасянуць яе, аслабаняючы ад сыпучай кастрыцы, потым выраўняць з канцоў і тады ўжо трапаць.

5. Уменьне трапальшчыка заключаецца ў тым, каб сьлізкія ўдары трапла ня былі рэзкімі, не разьбівалі валакна, але дастатковымі для выбіваньня кастрыцы і захоўвалі стужкаватасьць валакна.

6. Трапаньне жмені робіцца ў дзьве хваткі: «начарна» і потым «начыста». Для гэтага 2-3 жмені, апрацаваныя начарна, злучаюцца ў адну і трэплюцца начыста.

7. Апрацаваныя жмені раскладваюцца ў даўжыню і асобна: паводле колеру, моцнасьці і мяккасьці валакна; перад канцом работы яны зьвязваюцца ў кулікі вагою 3—4,5 **кг.**

8. Пры наяўнасьці ў колгасе трапальных колаў яны абавязкова скарыстоўваюцца для апрацоўкі хоць часткі валакна.

9. Для работы на іх трэба папярэдне навучыць трапальшчыкаў на нізкасортным валакне прыблізна на працягу 10 дзён.

10. Работа на коле праводзіцца з захаваньнем тых-жа спосабаў, але толькі больш старанна і акуратна, чым пры ручным трапаньні.

11. У залежнасьці ад якасьці валакна колу надаецца розная хуткасьць абаротаў—ад 120 да 180 у мінуту.

12. Калі трапальшчыкі дрэнна спраўляюцца з сартаваньнем валакна і зьвязваньнем, дык вылучаюцца для гэтай работы спэцыяльныя сартаўнікі-зьвязвальнікі.

13. Брыгады па трапаньні складаюцца прыблізна з 5 чалавек. Два сартаўнікі разьбіраюць жмені паводле даўжыні, моцнасьці, мяккасьці, і г. д., за выключэньнем колеру валакна. Адзін сартаўнік разьбірае жмені па колеры і два—зьвязваюць іх у кулі́ткі.

14. Рассартаваныя па якасьці жмені ня вяжуць у кулі́ткі, а крыху закручваюць іх у паўабароту, кладуць у асобныя пучкі і з канцоў зьвязваюць іх скруткамі пaклі.

15. Гатовае і зьвязанае па сартох валакно здаюць на загатоўчы пункт.

16. Захоўваецца валакно ў чыстых адрынах, сухіх памяшканьнях на насьціле з жэрдак або дошчак і складаваецца ў штабэлі ў некаторай адлегласьці ад сьцен.

### 7. Апрацоўка адкідаў.

1. Пры ўборцы, хаваньні і апрацоўцы трэсты бывае значная колькасьць розных адкідаў, пераблытаных, паломаных сьцяблоў—«блытанка», брак—зусім кароткая ці падапрэлая трэста і, нарэшце, пакульле—«омельле» пасьля мяцьця і «патрэп'е» пасьля трапаньня.

2. Блытанка і брак павінны пераапрацоўвацца ў рванку, а омельле і патрэп'е—у пакульле.

3. Апрацоўка блытанкі і браку заключаецца ва ўзмоцненай сушцы пры высокай тэмпэратуры, мяцьці і ручным устрасаньні, а пры наяўнасьці трапальных калоў—у трапаньні.

4. Моцна зьмяты сырэц вытрасаецца рукамі на таку ад кастрыцы да магчымай чыстаты. Атрыманае зблытанае валакно пераскубаецца рукамі ў рванку.

5. Таксама вытрасаецца на пакульле патрэп'е і омельле; у выпадку патрэбы іх папярэдня прасушваюць і прамываюць.

---

